*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

№ 103 (1168)

Пятніца, 8 чэрвеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, па ўсходзе навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/с, парывы да 14. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — +19...+21, Мінску, Гродне, Гомелі — +20...+22, Брэсце — +21...+23.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць. 9-га ўначы ў заходніх, удзень і ў цэнтральных, 10-га па паўднёвым усходзе кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер пераменных напрамкаў, 4—9 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +8...+13, 10-га на захадзе краіны +4...+9, удзень +18...+23; 9-га па ўсходзе — +24...+27.



## ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ ПРЫЗНАЧАНЫ НА 9 ВЕРАСНЯ 2001 ГОДА

*(Каментарый — у наступным нумары.)*

## ПУЛЬС

### "Пяцёрка" супраць БТ

**"Пяцёрка" патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты (Сямён Домаш, Міхаіл Чыгір, Павел Казлоўскі, Уладзімір Ганчарык і Сяргей Калякін) звярнулася з адкрытым лістом да Генеральнага пракурора Беларусі Віктара Шэймана.**

Яны звяртаюць увагу кіраўніка беларускай пракуратуры на факты распаўсюджвання ў інфармацыйна-аналітычных перадачах Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі "паклёпніцкіх выдумак і распальвання нацыянальнай варожасці".

Як падкрэсліваецца ў дакуменце, "усё гэта падаецца з наўмысным нагнятаннем істэрыі і страху, не можа быць кваліфікавана інакш, як адкрытая правакацыя не толькі ў дачыненні да нас асабіста, але і да ўсіх, хто мае іншыя погляды, якія не супадаюць з цяперашнім курсам кіраўніка дзяржавы".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

### На Брэстчыне клешчавы энцэфаліт

**Сёлета першыя захворванні на клешчавы энцэфаліт зарэгістраваны ў сям'і фермера з Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці.**

Захварэлі жанчына і двое яе ўнукаў — 11 і 15 гадоў. Устаноўлена, што заражэнне адбылося пры ўжыванні інфіцыраванага казінага малака. Паводле слоў загадчыцы эпідаддзелам цэнтра Алы Корзан, за апошнія 10 гадоў у вобласці зарэгістраваны 240 выпадкаў клешчавога энцэфаліту. Пік энцэфаліту прыпаў на 1996 год, калі было зафіксавана 60 выпадкаў. На працягу апошніх двух гадоў адзначана ўсяго 10 выпадкаў захворвання ў Камянецкім, Пружанскім і Маларыцкім раёнах вобласці. Апрача гэтых раёнаў, прыродныя ачагі энцэфаліту знаходзяцца ў Белавежскай пушчы і ў Бярозаўскім раёне.

Клешчавы энцэфаліт, па словах Алы Корзан, лечыцца. Выпадкаў смерці або цяжкіх ускладненняў за 10 гадоў назірання не адзначалася. Як лічаць спецыялісты, больш "небяспечная і вераломная" іншая хвароба, якую таксама перадаюць кляшчы — клешчавы сістэмны барэліёз. У Брэсцкай вобласці ён выяўляецца з 1993 года.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

### Футбол: зноў нічыя

**Нацыянальная зборная Беларусі па футболе правяла чарговую гульню адборачнага турніра да чэмпіянату свету 2002 года. У Осла беларускія спартсмены гулялі са зборнай Нарвегіі. Лік гульні 1:1.**

Лік у матчы на 24-й хвіліне адкрыў беларускі паўабаронца Валянцін Бялькевіч. Здаецца, гэта быў адзіны галявы момант беларусаў за гульню. За дзесяць хвілін да заканчэння матча нападаючы іспанскай "Валенсіі" Кэр'ю аднавіў раўнавагу ў ліку. На гэтым непрыемнасці для беларусаў не скончыліся. За спрэчку з арбітрам быў выдалены наш галкіпер Генадзь Тумілові. У якасці пакарання ен будзе вымушаны прапусціць наступную гульню супраць каманды Польшчы.

Матчы нашых сапернікаў па пятай адборачнай групе Украіны і Уэльса, Арменіі і Польшчы скончыліся з аднолькавым лікам — 1:1. Такім чынам, зборная Беларусі захавала за сабой другое месца.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### Падаражала ацяпленне

**Бліжэйшым часам істотнае павышэнне тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва не плануецца. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота. Выключэннем з'яўляецца тарыф на ацяпленне і гарачую ваду, які, паводле інфармацыі міністра, у чэрвені павышаны ў 1,82 раза.**

Па словах Мількоты, у перспектыве для гаспадароў прыватызаваных кватэр будзе ўведзены падатак на нерухомасць, а для наймальнікаў жылых памяшканняў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, — плата за наём. На першым этапе падатак на нерухомасць і плата за наём жылога памяшкання будуць прыкладна аднолькавыя, "каб не пакрыўдзіць ні тых, ні другіх".

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# КАНЦЭРТ ДЛЯ АНДРЭЯ КЛІМАВА

## Вядомыя беларускія спевакі Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч далі дабрачынны канцэрт для вязняў мінскай калоніі, сярод якіх — асуджаны дэпутат Вярхоўнага Савета Андрэй Клімаў

Аляксандр Ціхановіч паведаміў радыё "Свабода": "Мы сябруем з Андрэем Клімавым больш за дзесяць гадоў, ён шмат дапамагаў нам у свой час. І цяпер, калі ён трапіў у бяду, мы лічым сваім абавязкам дапамагчы яму. А яшчэ ў гэтай калоніі шмат іншых нашых сяброў. Гэта вельмі добра, што мы можам з імі сустрэцца і пасьпяваць для іх". Ціхановіч распавёў, што ідэя наведаць з канцэртам турму, дзе адбывае пакаранне Андрэй Клімаў, узнікла яшчэ напачатку года. Але заміналі абставіны. "Збольшага гэта былі нашы асабістыя праблемы, яны не звязаны з міліцэйскім кіраўніцтвам", — запэўніў спявак.

Паводле слоў Аляксандра Ціхановіча, іх ініцыятыву адразу падтрымалі і Камітэт выканання пакаранняў пры Міністэрстве ўнутраных спраў і адміністрацыя калоніі. Для спевакоў гэта ўжо трэці выступ у канцэртнай зале за калючым дротам. Некалькі гадоў таму яны спявалі для вязняў калоніі ў паселішчы Вейна пад Магілёвам, затым была калонія ў Гомелі.

Аляксандр Ціхановіч таксама сказаў, што добра ведае пра тое, што ў калоніі да Андрэя Клімава сядзеў дэпутат Уладзімір Кудзінаў. З ім асабіста Ціхановіч не быў знаёмы, але сказаў, што паважае людзей, якія мужна адстойваюць свае палітычныя погляды. Дарэчы, славуты дуэт не пабаяўся некалі публічна засведчыць сваё сяброўства з Андрэем Клімавым, на якога ўжо надзелі кайданы. Аляксандр разам з Ядвігай прыйшлі на абвяшчэнне прысуду Клімаву і падарылі яму ў судовай зале кветкі. Потым, ужо ў турме, дэпутат некалькі разоў атрымліваў ад іх харчовыя пасылкі.

А вось што сказала жонка Андрэя Клімава Таццяна Леановіч: "Гэты канцэрт — безумоўна моцная маральная падтрымка Андрэю, якога афіцыйная прапаганда выстаўляе злодзеем. Мы ўсе вельмі ўдзячныя Аляксандру і Ядзі за гэты добры ўчынак".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.**

Фота IREX/ProMedia.

## ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА

# ПРЕСС ВЕРТИКАЛИ,

## или О декоративной власти Советов

В статье 2 Закона Республики Беларусь "О местном управлении и самоуправлении в Республике Беларусь" записано "Местное самоуправление — форма организации и деятельности граждан для самостоятельного решения социальных, экономических, политических и культурных вопросов местного значения, исходя из интересов населения на основе собственной материально-финансовой базы и привлеченных средств".

Собственная материально-финансовая база у Советов депутатов формально имеется, но реально ею управляет исполком. Советам депутатов отведена лишь роль утверждения программ социально-экономического развития и местного бюджета. О какой самостоятельности может идти речь, если городской Совет депутатов не может самостоятельно утвердить городской бюджет, а ждет указаний сверху, так как существующая система в стране не позволяет этого сделать! Нужно вначале сформировать вышестоящие бюджеты, а потом, что останется, пойдет в местный бюджет. Какую же Совет депутатов может утвердить программу развития города при существующем остаточном принципе формирования бюджета?

О какой самостоятельности городского Совета депутатов может идти речь, когда он самостоятельно не может ни избрать, ни освободить своего председателя Совета? В соответствии с изменениями, внесенными в Закон "О местном управлении и самоуправлении" в 2000 году, на эту должность обязан рекомендовать председатель областного Совета депутатов. В таком же порядке происходит процедура освобождения его от должности. Вот вам и самостоятельность! Это еще один шаг на пути фильтрации нужных власти людей в представительных органах.

Отсутствие реальной самостоятельности Советов депутатов подчеркивает и тот факт, что они не имеют полноценного статуса юридического лица. Статья 12 Закона "О местном управлении и самоуправлении" лишь указывает на то, что Советы депутатов являются юридическим лицом. Однако это входит в противоречие с требованием Гражданского кодекса Республики Беларусь, который определяет ряд признаков юридического лица, которые отсутствуют у Советов депутатов. К примеру, у Советов депутатов отсутствует имущественная обособленность, самостоятельная имущественная ответственность, они не могут самостоятельно выступать в гражданском обороте от своего имени, у них нет самостоятельного баланса.

Пункт 1 ст.25 Закона Республики Беларусь "О местном управлении и самоуправлении в Республике Беларусь" прозрачно указывает на компетенцию городского Совета депутатов по обеспечению соблюдения на подведомственной территории законов Республики Беларусь. Трудовой кодекс Республики Беларусь признает недопустимым производить незаконные удержания из зарплаты работников. К незаконным удержаниям относятся удержания с работников организаций, предприятий, учреждений г.Солигорска трех однодневных заработков на субботниках в течение марта—апреля с.г. по решению горисполкома. Однако предложение рассмотреть в горсовете законность этого решения было отклонено депутатами. Основным мотивом такой позиции является нежелание большинства из них осложнять взаимоотношения с председателем исполкома.

Мысль об отсутствии реальной представительной власти подтверждают факты повсеместного нарушения права депутата на безотлагательный прием должностными лицами. Депутаты тратят массу времени, чтобы попасть на прием к тому или иному чиновнику.

Казалось бы, Совет депутатов, избранный жителями города, должен в своей деятельности во главу угла ставить интересы этих людей. В практике работы Совета все происходит наоборот. За общегосударственными интересами не учитываются интересы своих избирателей. На первое место ставятся интересы предприятия, города, республики, а человек — на последнем месте. Когда беседуешь в отдельности с каждым депутатом, то обнаруживаешь, что они вроде бы обеспокоены судьбами избирателей, однако результаты голосования показывают противоположное.

Взять, к примеру, злополучный 5-процентный налог на продажу, который навязан для принятия городскому Совету сверху. Большинство депутатов понимали, что это очередной побор с предпринимателей и, соответственно, покупателей города. При нажиме власти этот налог был принят. Однако после дружной забастовки индивидуальных предпринимателей исполком вынужден был пойти на попятную. Председатель исполкома А.Н.Лаврукевич дала заверение предпринимателям, что сессия пересмотрит, ранее принятое решение. И этому не стоит удивляться. Объяснение столь высокой уверенности в схожести мнения председателя исполкома с мнением основной массы депутатов здесь простое. Большинство депутатов стали ими по рекомендации исполкома. Существующая избирательная система позволяет протаскивать угодных депутатов, которые будут голосовать так, как нужно исполкому. Попробуй вырази свое мнение — завтра будешь "на ковре" у "вертикальщика". А если не сделаешь выводов из "задушевной" беседы — пеняй на себя.

Стоило мне как заместителю председателя городского Совета депутатов сделать несколько самостоятельных шагов, несогласованных с "вертикальной" властью, высказать свою точку зрения на ряд политических вопросов, как тут же я был записан в оппозиционеры. Одним из таких шагов была моя попытка выступить на Всебелорусском съезде Советов, где я был делегатом. Лишь одно желание высказать свои мысли о роли и месте городского Совета депутатов в жизни города, изложить свое видение путей повышения статуса представительного органа государственной власти вызвало гнев председателя исполкома.

Второй мой самостоятельный шаг вызвал не просто гнев власти, но и практические преследования. Я давал себе отчет в том, что победить ставленника от власти на выборах в Палату представителей будет проблематично. Выставив свою кандидатуру, я совместно с другими наблюдателями заглянул в недра административного ресурса, которым пользуется исполнительная власть при протаскивании своих кандидатов. Это десятки актов нарушения избирательного законодательства со стороны властей и избирательных комиссий.

За это в декабре 2000 года я был досрочно освобожден от должности заместителя председателя Солигорского городского Совета депутатов без какой-либо формулировки причины снятия.

Отсутствие необходимого материально-технического, финансового, кадрового и методического обеспечения деятельности президиума Совета депутатов, его постоянных комиссий, отсутствие реальной власти у местного представительного органа ставят его в неравные условия с исполнительной властью и делают невозможным реальное исполнение требований Конституции Республики Беларусь о сдерживании и уравновешивании этих двух ветвей государственной власти.

Мне видится гибельным для нашего государства путь его укрепления через разрушения местных представительных органов власти, создание и укрепление вертикали нынешнего типа. Нельзя добиться значительных результатов в обустройстве нашей жизни, не укрепляя и неразвивая местное самоуправление.

**Николай САНЬКО,**
**депутат Солигорского городского Совета депутатов.**

# "Я яму больш не веру..."

## Добра, што чалавек, хоць і са спазненнем, разабраўся

На выбарах 1994 года Васіль Масло галасаваў за Лукашэнку. За каго галасаваць цяпер, ён пакуль не ведае. Затое ён дакладна ведае, за каго не будзе. За таго ж Лукашэнку. Такая кардынальная трансфармацыя поглядаў, канешне, мела пад сабою глебу. Васіль Ігнатавіч, што называецца, просты чалавек. У чым заключаецца яго справа, я патлумачу ніжэй. А пакуль давайце пачытаем яго ліст, атрыманы мною днямі.

*"Я ўсё жыццё працаваў на зямлі, у сельскай гаспадарцы. Але вось мне, чалавеку перадпенсійнага ўзросту, прыйшлося звольніцца. Я перакананы, што мафія ў Беларусі бессмяротная. Наш цяперашні дырэктар саўгаса — страшны чалавек. Дый сябры яго вельмі моцныя людзі. А хто я такі? Яны мяне раздавяць і не заўважаць. Але буду ісці да канца. Канешне, калі вы мне дапаможаце. Думаю, праўда будзе на маім баку.*

*Я перакананы, што Лукашэнка таксама з іхняга кола. Усё ж такі былы дырэктар саўгаса, а яны ўсюды аднолькавыя. Дырэктар дырэктарам, а сельскую гаспадарку завaліў поўнасцю і канчаткова. Мы ж усё бачым. Гэта яму даравaць нельга. Вось узяць наш саўгас "Пціч" Мінскага раёна: што хочуць, то і робяць. І ніхто ні за што не адказвае, як з гуся вада. А рабочага за вядро бульбы — у каталажку. Не веру я ім нікому, а першаму — Лукашэнку. Калі пры ім магчыма тое, што ёсць, то і ён такі ж. У каго ўлада і долар, у таго і закон.*

*Значыць, раблю вывад, што закон на баку тых, хто яго парушае. Злачынцаў. А мы проста быдла. Ніхто нас, сялян, за людзей не лічыць. Лукашэнка з трыбуны гаворыць адно, а робіцца зусім іншае. Я нават не ведаю, як жыць далей.*

*Судовая сістэма працуе на багатых. Перакананы ў гэтым. З 1997 года абіваю парогі розных судоў, а мне шлюць адны адпіскі. Прабачце, але набалела...".*

Гісторыя Васіля Масло даволі няхітрая па нашым часе, я б сказаў, тыповая. Яго сям'я, тры сыны і жонка, жывуць у двухпакаёўцы. Жонка-аграном была ў спісе на атрыманне жылля першай, але шыкоўны катэдж засяліў новы дырэктар саўгаса (яны тут мяняюцца часта). Засяліў незаконна, аб чым Васіль Ігнатавіч мае афіцыйныя дакументы. Потым дырэктар патануў у рэчцы пасля адной "патрэбнай" сустрэчы ў нефармальнай абстаноўцы на беразе той жа рэчкі. Але паспеў прапісаць у катэдж сваю новую жонку. Са старою шлюб быў скасаваны яшчэ ў 1991 годзе, а з новаю быў зарэгістраваны ўжо пасля атрымання катэджа, іншымі словамі, на жытло дырэктар права не меў. А мела на яго права сям'я Масло.

Ну вось, з тае пары Васіль Ігнатавіч змагаецца за сваё, калі можна так сказаць, канстытуцыйнае права на жыллё. Наколькі чытач можа меркаваць па змесце ліста — беспаспяхова.

Не варта, думаю, пералічваць, куды Масло звяртаўся, колькі і калі было судовых пасяджэнняў, колькі разнастайных камісій да яго прыязджала, каб пацвердзіць, што праўда на яго баку. Бо фактычна нічога не змянілася і аказалася, што праўда на баку тых, у каго "ўлада і долар". Іншымі словамі, на баку начальства. У нас склалася так, што ў каго ўлада, у таго і долар. Без улады няма долара, а без долара няма ўлады.

У прынцыпе, гэта ісціна вядомая даўно, прыкладна з той пары, калі чалавек стаў сябе адчуваць грамадскай жывёлай і стварыў першыя інстытуты ўлады. Праўда, "просты чалавек" гэтым не вельмі цікавіцца. Нешта разумець ён пачынае толькі тады, калі "гром грымне" непасрэдна над яго галавою. У гэтым выпадку працэс асэнсавання рэчаіснасці становіцца імклівым. Нешта падобнае здарылася з Васілём Ігнатавічам.

Я яго ведаю з 1997 года, і працэс асэнсавання ім даволі простых ісцін адбываўся на вачах. Спачатку Масло дабіваўся справядлівасці на раённым, потым — на абласным, затым — на рэспубліканскім узроўнях. Ён тады яшчэ верыў, што "баяры дрэнныя, а цар добры". Нарэшце, дайшоў да Адміністрацыі прэзідэнта. Калі і тут атрымаўся поўны "аблом", Васіль Ігнатавіч задумаўся. Вынікам роздумаў стаў працытаваны вышэй ліст.

Ну і вельмі добра, што чалавек, хоць і са спазненнем, але разабраўся. Можна, канешне, задурыць галаву дэлегатам "усебеларускага хурала", кінуўшы ім тое-сёе з панскага стала, можна абдурыць яшчэ нейкую колькасць людзей, якія спыніліся ў сваім развіцці недзе ў 1991 годзе. Васіля Ігнатавіча Масло, думаю, абдурыць ужо немагчыма. Я лічу, што праз нейкі час ён зразумее і тое, што ніякая газета і ніякі журналіст яму таксама не дапамогуць.

Дапамагчы сабе ён можа толькі сам. Згодна з эсэраўскім лозунгам "у барацьбе заваюеш ты права сваё". Толькі так, Васіль Ігнатавіч, толькі так!

**Андрэй СЯРЖАН.**

# Валерый Шчукін будзе арыштаваны на 10 сутак

6 чэрвеня суд Ленінскага раёна Мінска, разгледзеўшы адміністрацыйную справу ў дачыненні да вядомага грамадскага дзеяча і журналіста Валерыя Шчукіна, пастанавіў падвергнуць яго адміністрацыйнаму арышту на 10 сутак.

Шчукін быў абвінавачаны ў непадпарадкаванні законнаму патрабаванню супрацоўніка міліцыі (артыкул 166 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь). 18 мая, падчас правядзення ў Мінску ў Палацы Рэспублікі другога Усебеларускага народнага сходу, каля 19 гадзін вечара Шчукін знаходзіўся на праспекце Францішка Скарыны, непадалёк ад Кастрычніцкай плошчы. Ён не выкрыкваў лозунгаў, у руках не трымаў ніякіх плакатаў. Некалькі дзесяткаў супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным спрабавалі выдаліць з тратуара прысутных людзей, якія выказвалі пратэст дэлегатам форуму, якія раз'язджаліся з плошчы пасля сходу. Шчукін запатрабаваў тлумачэнняў, за што і быў затрыманы.

У судзе былі дапытаны 7 супрацоўнікаў міліцыі, паказанні якіх адрозніваліся. Некаторыя заяўлялі, што Шчукін нецэнзурна лаяўся, хапаў іх за адзенне, спрабаваў выскачыць на праезную частку і гэтай далей. Таму яны прынялі рашэнне яго затрымаць. Толькі адзін з супрацоўнікаў міліцыі сказаў, што загад затрымаць менавіта Шчукіна яны атрымалі па рацыі.

Сведкі, заяўленыя Шчукіным, далі прама супрацьлеглыя паказанні: ён знаходзіўся на мерапрыемстве як журналіст, а супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, не прадставіўшыся, пачалі літаральна выштурхоўваць людзей з тратуара да ўваходу ў метро.

Шчукін не прызнаў сваёй віны, заявіўшы, што закон прадпісвае выконваць толькі законныя патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі. У дадзеным выпадку сама міліцыя дзейнічала з грубым парушэннем закону. Таму ў яго дзеяннях не было саставу правапарушэння і ён прасіў суд спыніць вытворчасць па справе. Яго прадстаўнікі — адвакат Таццяна Вардомская і прафесар, кансультант Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіл Пастухоў таксама абгрунтавалі адсутнасць якога-небудзь парушэння закона ў дзеяннях Шчукіна.

Аднак суддзя Аляксандр Шылько палічыў, што Валерый Шчукін парушыў закон і пастанавіў падвергнуць яго адміністрацыйнаму арышту на 10 сутак.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## ИНИЦИАТИВА

# На первый, второй рассчитайсь!

Известно, с какой основной проблемой столкнулись члены известной "пятерки" политиков, принявших решение участвовать в президентских выборах, — Павел Козловский, Семен Домаш, Михаил Чигирь, Владимир Гончарик и Сергей Калякин. Принимая во внимание тот факт, что будущий кандидат, которого назовут единым, очевидно, столкнется с препятствиями в регистрации в Центризбиркоме, было принято решение собирать подписи и идти к регистрации отдельными командами. Что ж, решение вполне логичное. Только вот проблема, с которой автоматически столкнулась "пятерка", вполне может похоронить в будущем все благие намерения.

Суть этой проблемы заключается в следующем: отсутствие четкого и ясного сообщения о едином кандидате. Как объяснить избирателям, Кремлю, загранице, КТО, в конце концов, будет стоять в единственном числе в избирательном бюллетене рядом с фамилией Александра Лукашенко? Кто он, единый кандидат? Считаю: объяснить это нужно уже сейчас, а не за две-три недели до выборов. Это нужно сделать, чтобы избежать путаницы в умах будущих избирателей, в умах служащих администрации президента России, в умах американских конгрессменов.

Притчей во языцах уже стал недавний случай в Москве, когда у четверых из "пятерки" спросили на пресс-конференции, кто из них собирается быть президентом. Ответ, по слухам, был простым до нелепости: "Мы". Очевидно, что такое положение вещей, такая размытость внешнего сообщения о подготовке демократической общественности Беларуси к президентским выборам не могут устраивать никого — ни Москву, ни Брюссель, ни Вашингтон, ни нас, избирателей. Короче, мы попали в ловушку.

Какой же из нее выход? Предлагаю простой, как грабли, способ. То бишь скомандовать кандидатам: на первый, второй рассчитайсь! Если чуть подробнее, то считаю, что необходимо создать специальный Совет, в который включить ведущих социологов, политологов, писателей, в общем, представителей интеллектуальной элиты нации. Затем нужно поручить этому Совету расположить претендентов по ранжиру: к примеру, Михаил Чигирь — номер первый, Павел Козловский — номер второй, Владимир Гончарик — номер третий, Семен Домаш — номер четвертый, Сергей Калякин — номер пятый. И с этой минуты претендента в кандидаты, которому присвоен первый номер в списке (в данной ситуации, Михаила Чигиря), объявить единым кандидатом от широкой демократической коалиции. Установить правило "эстафетной палочки", которое гласит: если кто-то из кандидатов по той или иной причине выпадает из списка (нерегистрация, отказ от участия в выборах, репрессии и т.д.), его место, то есть место единого кандидата, автоматически занимает тот кандидат, который является в списке следующим.

При этом желательно, конечно, оставить дверь "пятерки" открытой. Пусть приходит каждый, кто будет отстаивать в своей программе демократические ценности и будет способен собрать сто тысяч подписей. Пусть приходит, и мы ему скажем "Здрасьте! Пройдите и получите на основании решения Совета Ваш порядковый номер".

Реализация моей скромной инициативы поможет, на мой взгляд, нашим демократам убить сразу двух зайцев: во-первых, способствовать созданию группы (пятерки, шестерки, десятки) НЕЗАВИСИМЫХ претендентов на президентское кресло, способных собрать свои команды и сто тысяч подписей, и, во-вторых, обрисовать ясный и понятный внешний MESSAGE (то есть, сообщение) о едином кандидате. Для Запада. Для Кремля. Для нас.

**Александр СИЛИЧ.**

